*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***



# наша слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года | № 28(413) | 14 ЛІПЕНЯ 1999 г.

## Рэгістрацыя ТБМ перанесена на няпэўны тэрмін

**Паважаныя сябры і прыхільнікі ТБМ!**

У канцы траўня 1999 года кіраўніцтва ТБМ перадало ў Міністэрства юстыцыі ўсе неабходныя матэрыялы для перарэгістрацыі нашай арганізацыі. На працягу месяца мы актыўна супрацоўнічалі з вышэй згаданым Міністэрствам, прыносілі неабходныя даведкі, ў Статут ТБМ унеслі усе праўкі, прапанаваныя нам супрацоўнікамі Мінюста. У канцы чэрвеня ўсе дапрацаваныя матэрыялы па справе ТБМ былі перададзенаы ў адпаведную камісію па рэгістрацыі, створаную прэзідэнтам Беларусі. Пры гэтым ніякіх заўваг з боку Міністэрства юстыцыі мы не мелі, і там нас запэўнілі, што ў панядзелак, 5 ліпеня, мы ўрачыста атрымаем пасведчанне аб перарэгістрацыі.

Аднак, ведаючы, якія асобы ўваходзяць у склад славутай камісіі, што стаіць над прафесійнымі юрыстамі, і як некаторыя яе сябры ставяцца да ўсяго беларускага, у мяне былі вялікія сумненні аб станоўчым вырашэнні нашай справы адразу. І мая палітычная інтуіцыя, на жаль, не падманула і на гэты раз.

Калі ў прызначаны тэрмін я з'явіўся ў Міністэрства, мне заявілі, што ў камісіі ўзніклі пытанні па Статуту Таварыства, а менавіта, па яго наступнаму абзацу:

"Асноўная мэта дзейнасці ТБМ ... садзейнічанне забеспячэнню роднай мове статуса адзінай дзяржаўнай мовы".

Гэты абзац вельмі не спадабаўся аднаму з сяброў прэзідэнцкай камісіі, і камісія, заявіўшы, што ў нас зараз дзве дзяржаўныя мовы, адклала нашу перарэгістрацыю на няпэўны тэрмін і вырашыла пасладь Статут ТБМ на рэцэнзію ў Міністэрства адукацыі.

Супрацоўніца адпаведнага аддзела Мінюста адмовіла мне выдаць копію з рашэння вышэйпамянёнай камісіі (і нават яго не паказала!) і пры гэтым паведаміла, што Міністэрства юстыцыі дашле Таварыству пісьмовы адказ. На маё пытанне, чаму гэты абзац не выклікаў пярэчанняў у шаноўнага Міністэрства юстыцыі год назад, калі 24 жніўня 1998 года мы апошні раз уносілі змены ў Статут ТБМ, і на той час, як вядома, "двухмоўная" Канстытуцыя ўжо існавала, яна адказала, што, мабыць, камісіі "зверху больш відаць". Як кажуць, у такім выпадку каментар не патрэбны...

Паважаныя сябры! У гэты нялёгкі час я заклікаю Вас яшчэ шчыльней згуртавацца вакол беларускай ідэі. Толькі разам мы пераможам.

*Старшыня ТБМ імя Францішка Скарыны*
*Алег Трусаў.*

**Старшыні Салігорскай рады ТБМ Мацюкевіч Марыі Сцяпанаўне**

## *Вельмішаноўная Марыя Сцяпанаўна!*

**Шчыра віншуем Вас, кіраўніка Салігорскай рады ТБМ, з 50 - годдзем з дня нараджэння. Ваша высокая грамадзянская актыўнасць, мужнасць і цярпенне ў адстойванні роднага слова вартая пераймання. Такімі як Вы па праву павінна ганарыцца наша дзяржава. Ёй не стае сёння самаадданых сыноў і дачок, як Вы. Вялікі Вам дзякуй за бескарыслівую працу, за Ваш важкі ўнёсак у адраджэнне нацыянальнай культуры.**

**Зычым Вам моцнага здароўя, сямейнага дабрабыту, пасьпехаў ва ўсіх добрых справах. Няхай здзейсняцца нашы агульныя мары – Беларусь стане квітнеючай краінай і сапраўдным родным домам для ўсіх нас.**

**Жыве Беларусь!**

**Сакратарыят ТБМ.**


РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ
МІНСКІ ГАРАДСКІ ВЫКАНАЎЧЫ КАМІТЭТ
УПРАЎЛЕННЕ АДУКАЦЫІ

РЕСПУБЛИКА БЕЛАРУСЬ
МИНСКИЙ ГОРОДСКОЙ ИСПОЛНИТЕЛЬНЫЙ КОМИТЕТ
УПРАВЛЕНИЕ ОБРАЗОВАНИЯ

220005, г. Мінск, вул. Румянцава,13
Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны

Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь

Упраўленне адукацыі Менгарвыканкама разгледзела ліст старшыні Таварыства беларускай мовы і паведамляе, што беларускамоўны 9"А" клас у СШ № 191 будзе захаваны.

Начальнік упраўлення І.А.Пятровіч

## Беларуская пачатковая школа ў Менску.

***Да ўвагі бацькоў, жадаючых даць сваім дзеткам беларускую адукацыю і выхаванне!***

ТБМ арганізуе набор дзяцей 6-7 гадоў у 1 клас прыватнай пачатковай школы, заснаванай на базе юнацкай секцыі ТБМ. Забяспечваецца кваліфікаванае выкладанне ўсіх прадметаў па-беларуску ў адпаведнасці з праграмнымі нормамі, зацверджанымі Міністэрствам адукацыі для школ з беларускай мовай навучання.

Зацікаўленых запрашаем на сустрэчу з кіраўніцтвам ТБМ 15 ліпеня ( чацвер) у 17-30 на Румянцава, 13.

Даведкі па тэл.: 284-85-11 ( з 10-30 да 19-00 штодня),

## Ахвяраванні на ТБМ

1. Санько В.А. г. Менск - 400.000 руб.
2. Студзянічнік Л.У г. Менск - 100.000 руб.
3. Мацвееў А.А. г. Менск - 100.000 руб.
4. Пракаповіч І.І. г. Менск - 100.000 руб.
5. Пракаповіч М.А. г. Менск - 50.000 руб.
6. Васілец І.Л. г. Менск - 50.000 руб.
7. Масевіч С.І. г. Менск - 50.000 руб.
8. Сайкоўскі Г.І. г. Менск - 50.000 руб.
9. Яначкоў І.І. г. Менск - 200.000 руб.
10. "Кастусь Каліноўскі" - 100S.
11. Палсцюк Валер г. Менск - 100.000 руб.
12. "Беларус" - 500.000 руб.
13. Інжынеры МТЗ - 2.750.000 руб.
14. Пархімчык Г.С. г. Менск - 100.000 руб.
15. Іванова В.Э. г. Менск - 100.000 руб.
16. Багданкевіч С.М. г. Менск - 200.000 руб.
17. А.Д. - 300.000 руб.
18. Барэль Т. Ул. - 50.000 руб.
19. Гусева С.А г. Менск - 10.000 руб.
20. Кацянкова В.І. г. Менск - 20.000 руб.
21. Тарновіч А.П. г. Менск - 100.000 руб.
22. Туміловіч Г.П. г. Менск - 200.000 руб.
23. Герасімовіч В.І. г. Менск - 35.000 руб.
24. Тузін Рыгор г. Менск - 100.000 руб.
25. Дрозд Ю.П. г. Менск - 100.000 руб.
26. Марозаў В.П. г. Менск - 100.000 руб.
27. Папенка А.Н. г. Менск - 35.000 руб.
28. Літошка Юлія - 15.000 руб.
29. Ніканові Алена - 5.000 руб.
30. Казлоў Аляксандр - 1.000 руб.
31. Ермаковіч Анастасія - 5.000 руб.
32. Ермаковіч Аляксей - 5.000 руб.
33. Булага Мікалай - 5.000 руб.
34. Міхнавец Віталій - 5.000 руб.
35. Рудзеня Ірына - 5.000 руб.
36. Ермаковіч Ганна - 5.000 руб.
37. Кудзялевіч Алена - 5.000 руб.
38. Куцечка Аляксей - 5.000 руб.
39. Бяскосты Юрый - 5.000 руб.
40. Біруця Аляксей - 5.000 руб.
41. Місько Марына - 5.000 руб.
42. Бань Аляксандр - 5.000 руб.
43. Цаноўская Вольга - 5.000 руб.
44. Нікалаюк Алена - 500.000 руб.
45. Уласевіч Т.Н. - 500.000 руб.
46. Юшкевіч В.А. - 500.000 руб.
47. Шелег В.В. - 500.000 руб.
48. Абарэвін В.А. - 100.000 руб.
49. Корзун Г.П. - 100.000 руб.
50. Казакова Ж.Г. - 200.000 руб.
51. Нікалаюк В.В. - 200.000 руб.
52. Нікалаюк Таццяна - 50.000 руб.
53. Юрась Бабіч - 200.000 руб.
54. Людміла Васюкевіч - 200.000 руб.
55. Ірына Бондал - 200.000 руб.
56. Вадзім Зіманскі - 100.000 руб.
57. Сяргей Міхайлаў - 200.000 руб.
58. Таццяна Грачыха - 200.000 руб.
59. Яўгенія Марозава - 200.000 руб.
60. Генадзь Арцямёнак - 200.000 руб.
61. Ніна Даўбешка - 200.000 руб.
62. Надзея Гудкова - 50.000 руб.
63. Галіна Семянкова - 50.000 руб.
64. Юрась Мароз - 100.000 руб.

1. Пашанькова Анастасія Дзянісаўна г. Менск - 200.000 руб.
2. Валошчык Мікалай Антонавіч г. Белаазёрск - 500.000 руб.
3. Петруковіч Васіль Іванавіч г. Менск - 600.000 руб.
4. Баршчэўскі Лявон г. Менск - 500.000 руб.
5. Жытко Іван Андрэевіч г. Камянец -500.000 руб.
6. Ванько Віктар Міхайлавіч г. Менск - 500.000 руб.
7. Маханёк Святаслаў Фёдаравіч г.п. Круглае - 100.000 руб.
8. Гусева С.А. г. Менск - 100.000 руб.

Нікалюк Алена - 500.000 руб.
Уласевіч Т.Н. - 500.000 руб.
Юшкевіч В.А. - 500.000 руб.
Шэлег В.В. - 500.000 руб.
Абарэвіш В.А. - 100.000 руб.
Корзун Г.П. - 100.000 руб.
Казакова Ж.Г. - 200000 руб.
Нікалюк В.В - 200.000 руб.
Нікалюк Т. - 50.000 руб.
Янаякаў І.І. - 200.000 руб.
Кастусь Каліноўскі - S100
Палсцюк Ваяр - 100.000 руб.
беларус - 500.000 руб.
М.Мацюкевіч - 100.000 руб.

—

ТВМ (tbm@tbm.lingvo.minsk.by)
Belarusian Language Society
Tue, 06 Jul 99 11:58 +0200 GMT

## Дарагія сябры "Нашага слова"!

Сёння мы можам паведаміць вам вынікі падпісной кампаніі на трэці квартал 1999 года. Як і ў большасці газет падпіска "Нашага слова" ў гэтым квартале значна ўпала. Лета яно і ёсць лета. Значную частку нашых падпісчыкаў складаюць студэнты і вучні. А летам ім не да газет. Тым не менш мы даём гэтыя лічбы, каб асвятліць стан падпіскі па раёнах. І калі спалучыць гэтую табліцу з той, што друкавалася ў папярэднім нумары, то сітуацыя, наўпрост скажам не бліскучая. І гэта пры мінімальных цэнах. А калі лёс змусіць нас яшчэ падняць цану? Кіраўніцтву ТБМ і рэдакцыі ёсць над чым падумаць.

| | Красавік | Ліпень |
|---|---|---|
| **Віцебская вобласць** | | |
| Бешанковічы р.в. | 2 | 1 |
| Браслаў р.в. | 2 | 1 |
| Віцебск гор. | 33 | 25 |
| Віцебск РВПС | 3 | 6 |
| Верхнедзвінск р.в. | 2 | 5 |
| Глыбокае р.в. | 19 | 6 |
| Гарадок р.в. | 1 | 48 |
| Докшыцы р.в. | 3 | 8 |
| Дуброўна р.в. | 2 | 2 |
| Круляўшчызна | 2 | 1 |
| Ліёзна р.в. | 3 | 1 |
| Лепель р.в. | 1 | 1 |
| Міёры р.в. | 8 | 4 |
| Наваполацк гор. | 12 | 9 |
| Ворша гор. | 30 | 6 |
| Полацк гор. | 48 | 122 |
| Паставы р.в. | 10 | 2 |
| Расоны р.в. | 1 | 4 |
| Сянно р.в. | 2 | 1 |
| Талочын р.в. | 2 | 2 |
| Ушачы р.в. | 6 | 1 |
| Чашнікі р.в. | 2 | - |
| Шаркоўшчына р.в. | 3 | - |
| Шуміліна р.в. | 2 | - |
| **Усяго:** | **199** | **256** |
| **Берасцейская вобласць:** | | |
| Баранавічы р.в. | 35 | 25 |
| Бяроза р.в. | 7 | 5 |
| Белаазёрск р.в. | 1 | 2 |
| Бярэсце гор. | 18 | 26 |
| Ганцавічы р.в. | 1 | - |
| Драгічын р.в. | 1 | 1 |
| Жабінка р.в. | 2 | 1 |
| Іванава р.в. | 3 | 24 |
| Івацэвічы р.в. | 5 | 3 |
| Камянец р.в. | 71 | 53 |
| Кобрын гор. | 15 | 22 |
| Лунінец гор. | 5 | 4 |
| Ляхавічы р.в. | 2 | 3 |
| Маларыта р.в. | 3 | 3 |
| Пінск гор. | 87 | 73 |
| Пружаны р.в. | 6 | 2 |
| Столін р.в. | 116 | 5 |
| **Усяго:** | **378** | **252** |
| **Гомельская вобласць:** | | |
| Буда-Кашалёва | 3 | 3 |
| Брагін р.в. | 5 | 3 |
| Ветка р.в. | 2 | 4 |
| Гомель гор. | 60 | 51 |
| Гомель РВПС | 2 | 1 |
| Добруш р.в. | 5 | 2 |
| Ельск р.в. | 2 | 1 |
| Жыткавічы р.в. | 26 | 15 |
| Жлобін гор. | 52 | 51 |
| Калінкавічы гор. | 20 | 5 |
| Карма р.в. | 1 | 2 |
| Лельчыцы р.в. | 1 | 18 |
| Лоеў р.в. | 2 | 2 |
| Мазыр гор. | 37 | 31 |
| Акцябарскі р.в. | 1 | 3 |
| Нароўля р.в. | 1 | - |
| Петрыкаў р.в. | 49 | 3 |
| Рэчыца гор. | 4 | 16 |
| Рагачоў гор. | 6 | 3 |
| Светлагорск гор. | 43 | 38 |
| Хойнікі р.в. | 4 | - |
| Чачэрск р.в. | 3 | 2 |
| **Усяго:** | **331** | **254** |
| **Латвія** | **-** | **30** |

| | Красавік | Ліпень |
|---|---|---|
| **Гарадзенская вобласць** | | |
| Бераставіца | - | 26 |
| Ваўкавыск гор. | 13 | 12 |
| Воранава р.в. | 5 | 4 |
| Гародня гор. | 117 | 58 |
| Гародня РВПС | 25 | 4 |
| Дзятлава р.в. | 12 | 11 |
| Зэльва р.в. | 4 | 21 |
| Іўе р.в. | 4 | - |
| Карэлічы р.в. | 4 | 3 |
| Масты р.в. | 24 | 5 |
| Наваградак гор. | 62 | 8 |
| Астравец р.в. | 4 | 1 |
| Ашмяны р.в.. | 11 | 7 |
| Смаргонь гор. | 5 | 6 |
| Слонім гор. | 13 | 12 |
| Свіслач р.в. | 4 | - |
| Шчучын р.в. | 13 | 5 |
| Ліда | 55 | 153 |
| **Усяго:** | **375** | **336** |
| **Менская вобласць** | | |
| Беразіно р.в. | 10 | 5 |
| Барысаў гор. | 14 | 8 |
| Вілейка гор. | 70 | 7 |
| Валожын гор. | 12 | 11 |
| Дзяржынск р.в. | 6 | 3 |
| Жодзіна гор. | 9 | 8 |
| Клецк р.в. | 4 | 2 |
| Крупкі р.в. | - | 1 |
| Капыль р.в. | 1 | 2 |
| Лагойск р.в. | 9 | 11 |
| Любань р.в. | 5 | 4 |
| Менск гор. | 829 | 499 |
| Менск РВПС | 17 | 14 |
| Маладэчна гор. | 43 | 35 |
| Мядзель | 7 | 11 |
| Пухавічы РВПС | 12 | 11 |
| Нясвіж р.в. | 21 | 23 |
| Смалявічы р.в. | 2 | 2 |
| Слуцк гор. | 20 | 12 |
| Салігорск гор. | 14 | 20 |
| Ст.Дарогі р.в. | 3 | 2 |
| Стоўбцы р.в. | 7 | 5 |
| Узда р.в. | 2 | 2 |
| Чэрвень р.в. | 5 | 5 |
| Фаніпаль | - | - |
| **Усяго:** | **1125** | **705** |
| **Магілёўская вобласць** | | |
| Бабруйск гор. | 37 | 14 |
| Бабруйск РВПС | 19 | 29 |
| Бялынічы р.в. | 3 | 1 |
| Быхаў р.в. | 2 | 1 |
| Глуск р.в. | 1 | 1 |
| Горкі гор. | 46 | 11 |
| Дрыбін р.в. | 2 | 1 |
| Кіраўск р.в. | 2 | 2 |
| Клічаў р.в. | 1 | 1 |
| Краскаполле р.в. | 1 | 1 |
| Крычаў | 1 | 1 |
| Клімавічы р.в. | 36 | 5 |
| Касцюковічы р.в. | 17 | 15 |
| Круглае р.в. | 17 | 14 |
| Мсціслаў р.в. | 2 | 26 |
| Магілёў гор. | 53 | 19 |
| Магілёў РВПС | 36 | 34 |
| Асіповічы гор. | 50 | 10 |
| Слаўгарад р.в. | 46 | 2 |
| Хоцімск р.в. | 2 | 1 |
| Чэрыкаў р.в. | 1 | 1 |
| Чавусы р.в. | 1 | 1 |
| Шклоў р.в. | 8 | 7 |
| **Усяго:** | **331** | **254** |

**Усяго па краіне 2792 2059**

Слова пра сябра

# Проста Марыя

*Ніхто не зможа любае старонкі!*

*Я веру ў шчасны лёс твой, Беларусь,*
*Без гора, перастрэлак і разборак.*
*Не будзе прымусовым твой хаўрус,*
*Зямельку-маці не агорне морак.*

*Ніхто не будзе на кавалкі рваць,*
*Таптаць у бруд спрадвечныя святыні –*
*Сцяной паўстане беларусаў раць,*
*Навал варожых цёмны шквал адрыне.*

*Сінейшым стане ў жыцці васілёк,*
*Наладзяць белы карагод рамонкі,*
*Сыны і дочкі вернуцца здалёк...*
*Ніхто не зможа любае старонкі!*

*Марыя Мацюкевіч.*



Пад час знаёмства з Марыяй Сцяпанаўнай Мацюкевіч, яна папрасіла: "Завіце мяне проста Марыя". Так мне і ўрэзалася гэта ў памяць – "Проста Марыя", як нейкае атаясамленне з вядомым аднайменным кінафільмам. Калі гэта адбылося, я ўжо не памятаю – ці то ў першыя дні станаўлення нашага Таварыства, ці то на пасяджэннях сацыял-дэмакратычнай Грамады. Памятаю, як я тады недарэчна пакпіў з паходжання яе прозвішча. Але мой няўдалы гумар быў так лёгка абыграны ейнымі словамі, што мы весела пасмяяліся. Так і сталі сябрамі – сябрамі аднаго Таварыства, сябрамі адной партыі. Я не прыгадаю зараз ніводнага мерапрыемства, на якім бы не прысутнічала Марыя. Такая актыўнасць і такое пачуццё адказнасці не можа не здзіўляць. Жанчына, маці дваіх дзяцей, настаўніца – яна заўсёды знаходзіць магчымасць прыехаць у Менск аж з Салігорска, дзе жыве і працуе. Многія яе выступленні на пасяджэннях Рады ТБМ, з'ездах – своеасаблівы ўрок для мяне, бо іх абавязкова даведаешся што-небудзь новае.

Усе свае веды і здольнасці Марыя накіроўвае на тое, каб у нашым грамадстве панавала еднасць і адзінства. Яе праца на ніве беларускага адраджэння – важкі ўнёсак у справу рэалізацыі нацыянальнай ідэі. Шмат пакут зведала Марыя Сцяпанаўна ад тых, хто варожа ставіцца да гэтай ідэі. Я адчуў яе боль, як свой, пры расколе Грамады. Адбылося гэта пад час аб'яднання дзвюх партый – Грамада і Згода. Яе, як і мяне, хвалюе пытанне: чаму ў нашым грамадстве працягваецца падзел на сваіх і чужых, на сапраўдных і несапраўдных. Дзе тая сіла, якая на працягу апошніх гадоў раздзяляе не толькі грамадскія арганізацыі, але і ўвесь наш народ. Адкрыты ліст Марыі Мацюкевіч да Станіслава Шушкевіча, дзе яна ўздымала гэтыя пытанні, я ўспрыняў, як уласны крык душы. Але разважыўшы глыбей, суцешыў сябе тым, што гэта ўсё ж не раскол, а хутчэй аб'яднанне людзей па прынцыпу розных поглядаў на шляхі агульнай мэты. Але ў сённяшніх варунках, на жаль, чым больш спрэчак наконт "шляхоў", тым больш аддаляецца час дасягнення гэтай мэты. І што тут не кажы – камусьці гэта на руку.

Ад Марыі я навучыўся стрымліваць свае эмоцыі, быць спагадлівым да субяседніка, дараваць памылкі. Я па-добраму зайздрошчу ёй, як выхавацельніцы. Яна выгадавала цудоўнага сына, якім можа ганарыцца. Я сустракаўся з ім, маладым прыгожым юнаком у вайсковай форме, з цікавасцю гутарыў, ведаю ягоную грамадзянскую пазіцыю. А таму з упэўненасцю магу сказаць: такі не дазволіць сабе разганяць дубінкай удзельнікаў шэсцяў і мітынгаў. Пашчасціла і тым, каго вучыць Марыя Сцяпанаўна. На ўсё жыццё застанецца яна ў іхняй памяці, бо такія настаўнікі не забываюцца.

Марыя Мацюкевіч вядома ў рэспубліцы не толькі як грамадская дзеячка, але і як паэтка. Яе вершы прасякнуты шчырай любоўю да Бацькаўшчыны, прыроды і беларускага народа. У вершах Марыі – боль за лёс нашай краіны, клопат пра яе духоўныя скарбы.

*Люд беларускі! Мой народзе любы!*
*Скажы, дакуль насіць ты будзеш грэх.*
*Дакуль маўчацьмеш, сцяўшы зубы,*
*Даруючы з святыняў нашых здзек?*

Так у адным з вершаў звяртаецца яна да беларускага народа.

Марыя Мацюкевіч стварыла Салігорскую арганізацыю Таварыства беларускай мовы і па-сённяшні дзень з'яўляецца яе нязменным кіраўніком. За гэтыя гады яна не страціла імпэту і цярпення ў барацьбе за вяртанне роднага слова беларускаму народу. Бясспрэчна, яна застанецца ў гісторыі нашай культуры, як заснавальніца і выдавец рэгіянальнай газеты "Рагнеда", эпіграфам да якой абрала словы паэта-земляка Л. Шпакоўскага-Случаніна: "Памятай, беларус, што і ты чалавек, які можа сабой гаспадарыць!"

Сімвалічна, што поўня жыццёвага шляху Марыі адзначаецца 26 ліпеня – напярэдадні дня Незалежнасці Беларусі. Упэўнены – усе, хто ведае Марыю Сцяпанаўну Мацюкевіч, далучыцца да маіх слоў віншавання.

З юбілеем, наша дарагая сяброўка! Поспехаў табе, сейбіту разумнага, добрага, вечнага. Зычу моцнага здароўя, сямейнага дабрабыту, трываласці ў нялёгкіх жыццёвых варунках. Дай Бог табе ўбачыць плён сваёй нялёгкай працы і атрымаць заслужаную ацэнку не толькі ад сваякоў і сяброў.

Жыве Беларусь!

*Першы намеснік старшыні ТБМ Мікола Лавіцкі.*

## Жыве Беларусь!

*Унучцы Ганусьцы прысвячаю*

"Гэй, жыве Беларусь!" –
Кліч нясецца над светам.
"Гэй, жыве Беларусь!" –
Звоніць кожны палетак,
Прамауляе травінка,
Шапоча лісцінка...
Гэты кліч увабрала
У сябе аблачынка,
Разраслася вялікаю
Чорнай хмарай
І – "Жыве Беларусь" –
Гром з нябёсаў ударыў.
Ды, расквеціўшы луг
Каляровай вясёлкай,
Хмар ланцуг разарвала
Праменістае сонца.
Немаўлятка Ганулька
Сядзіць у калясцы,
Разабрацца спрабуе,
Што гэта за ляскат.
Вачаняткі-іскрынкі
На бабулю ўздымае
Непаседа дзяўчынка,
Гарэза малая.
Склала банцікам губкі,
Пазірае наўкола
І працягвае ручкі
Бабулі назола.
Жмурыць вочкі ад сонца,
Славіць хоча вясёлку
Ды шчабеча бясконца,
Вядзе з небам гамонку.
Прамаўляе Ганулька
Мовай ёй зразумелай,
Што жыве Беларусь шчэ,
Што яшчэ не памерла!

*Марыя Мацюкевіч.*

**Павел Сцяцко,**
*доктар філалагічныхнавук, прафесар, намеснік старшыні Гарадзенскай абласной рады ТБМ імя Францішка Скарыны*

# "З чужой моўнай практыкі..."

Працяг

***Прыймач і прыёмнік.*** Як ужо згадвалася, словы з каранёвай часткай *-ём* для беларускае мовы нехарактэрныя (параўн.: *наймы* і рас. *наём, уздым – подъём* ды падобныя). У "Беларуска-расейскім слоўніку" М. Байкова і С. Некрашэвіча (Мн.,1926.С.254) чытаем: "*Прыймо* н.– *приём*". І ў акадэмічным "Русско-белорусском словаре" пад рэдакцыяй Я.Коласа, К.Крапівы, П.Глебкі (М., 1953.С.507) бачым: "*Приём (действие) прыйманне, прыняцце; приёмный – прыймовы, прыймальны; приёмный день – прыймовы дзень, приёмная станция - прыймальная станцыя*". Ад асновы *прыйм-* (прыймальная станцыя) з дапамогаю прадукцыйнага суфікса *–ач* узнікла слова *прыймач*. На ўзор *рухач, капач, сякач, цягач, штурхач*. Акадэмічная "Беларуская граматыка" (Ч.1.Мн.,1985.С.236) лічыць, што аддзеяслоўныя назоўнікі з суфіксам *–ач*, якія абазначаюць прадметы, прызначаныя для выкання адпаведнага дзеяння, складаюць прадукцыйны словаўтваральны тып. Аднаслоўная намінацыя магла ўзнікнуць і шляхам кандэнсацыі апісальнай назвы: *прыймальны апарат* (прыбор, прыстасаванне) – *прыймач*. "Ведаючы гадзіну, спецыяльна слухалі перадачу, але гэта маглі рабіць толькі тыя, хто мае шматканальны прыймач (Наша слова. 1996.№2).

Слова *прыймач* з гэтым значэннем уласцівае і іншым славянскім мовам: украінск. *приймач*, славацк. *Prijimac*, чэшск. *Prijimac*.

***Згарнуўшы рукі ці склаўшы (злажыўшы) рукі?*** Нашыя слоўнікі расейскае ўстойлівае спалучэнне (сидеть) *сложа руки* перакладаюць амаль даслоўна: (сядзець) *склаўшы (злажыўшы) рукі* (РБС-82.Т.2.С.400). Між тым беларуская мова мае тут і сваё адмысловае выслоўе: (сядзець) *згарнуўшы рукі* (нічога не рабіць, перастаць дзейнічаць'). У аснове гэтага фразеалагізму – вобраз нябожчыка, якому згортваюць рукі (накладаюць адна на адну). Менавіта гэтае словаспалучэнне – *згарнуць рукі* – найбольш выразна перадае сэнс *перастаць дзейнічаць*. Карыстаецца гэтым фразеалагізмам і класік нашай літаратуры, выбітны майстра мастацкага маўлення Кузьма Чорны. У яго васьмітомавым зборы твораў чытаем: "Яна сядзела тады на камені, паклаўшы на прыпол згорнутыя рукі" (Т. 6. Мн., 1978. С.72). Гэтым выслоўем – (сядзець) згарнуўшы рукі – вельмі актыўна карыстаюцца і ў гаворках Зэльвеншчыны, прычым нярэдка і ў больш разгорнутым выглядзе: "От гультаіна гэтая Альжбета! Калі ні ідзеш каля яе хаты, то ўсё сядзіць і сядзіць згарнуўшы рукі, як той мярэц (в.Грабава)".

Пра блізкасць мовы жыхароў Зэльвеншчыны і насельнікаў Случчыны няраз згадваў знаны мовазнаўца і пісьменнік Мікола Лобан (загадчык сектара лексікалогіі Інстытута мовазнаўства Акадэміі навук Беларусі), калі прачытаў маю дысертацыю "Побытавая лексіка зэльвенскіх гаворак" (Мн.,1962. – 520с.).

***Змарнаваць час, прабавіць час – а не ўбіць час (забіць час).*** 18 жніўня 1998 года ў газеце "Народная воля" быў змешчаны артыкул "Прыгоды чэхаў на Беларусі", падпісаны: Мілан Шчасны, выканаўчы дырэктар чэскай будаўнічай фірмы "Капучын". Тэкст напісаны ўвогуле на добрай беларускай мове (відаць, папрацаваў неблага і перакладчык і стыліст). Але ж ... Вось гэтае *убіць час* – як тая лыжка дзёгцю: "Нашыя спробы неяк прыспешыць пераход мяжы канчаюцца загадам усёй нашай групе **сядзець у машыне** (пяць чалавек у " Шкодзе-Актавія"). Чакаем, назіраем з машыны, як мытнікі з вялізнымі шапкамі на галовах, ляніва пакурваючы, убіваюць час, замест таго, каб абцяжарыць сябе працай".

Устойлівае словаспалучэнне *убіць час* – калька з рас. *убить время*, дзе другі кампанент яго заменены беларускім словам (*время – час*), а першы застаўся без перкладу. Відаць, аўтар (перакладчык) палічыў, што рас. *убить* і белар. *убіць* тоесныя словы. І атрымалася штучная сінтаксічная канструкцыя, якая па-беларуску не мае сэнсу.

Насамрач, рас. *убить* мае іншыя беларускія адпаведнікі. "Русско-белорусский словарь" пад рэдакцыяй акадэміка К.Крапівы (Мн.,1982.Т.2.С.506) падае: "Убить сов.1.( умертвить) забіць, мног. Пазабіваць; убить наповал – забіць напавал; 2. Перен. (уничтожить) знішчыць; нельзя убить нашу веру в будущее – нельга знішчыць нашу веру ў будучыню; 3. Перен. (глубоко огорчить, привести в отчаяние) прыбіць, прыгнесці, прывесці ў роспач; это известие его убило –гэта вестка яго прыбіла (прыгняла, прывяла ў роспач); 4. Перен. Разг. (потратить на что-л.) патраціць; (издержать – еще) расходаваць, выдаткаваць; ( времени) змарнаваць; убить много энергии на что-либо – патраціць шмат энэргіі на што –небудзь; 5. ( уплотнить, утрамбовать) рас. Убіць, утрамбаваць; 6. (покрыть) карт. Разг. Пабіць; убить туза козырем – пабіць туза козырам; <> убить время – змарнаваць час; убить молодость – змарнаваць маладосць ; убей меня бог — забі мяне бог; убить бобра – ашукацца". Гэты артыкул цалкам паўтораны і ў перавыданні РБС –93 (Т.3.С.570) і РБС – 98.

Як бачым, расейскаму дзеяслову з прыстаўкаю у- адпавядаюць у беларускай мове іншапрыстаўкавыя аднакаранёвыя дзеясловы (*забіваць, пазабіваць, прыбіць, пабіць*) ці словы з іншым коранем (*знішчыць, прыгнесці, патраціць, расходаваць, выдаткаваць, змарнаваць*). І толькі з адным значэннем (*уплотнить*) бачым і ў беларускай мове *убіць* (разам з *утрамбаваць*).

У некаторых пісьменнікаў сустракаем аналагічную сінтаксічную канструкцыю *забіць час* (як адпаведнік рас. *убить время*), дзе перакладчык, убачыўшы ў слоўніку толькі адзін – першы – беларускі эквівалент (рас. *убіць – забіць*), стаў сам даслоўна перакладаць словаспалучэнне *убить время* і атрымаў *забіць час*. Але калі б ён прачытаў увесь лексікаграфічны артыкул з рэестравым словам *убить*, то знайшоў бы якраз патрэбны беларускі адпаведнік, які тут даецца пасля значка ромба. <> *убить время – змарнаваць час*. Да таго ж трэба ведаць, што фразеалагізмы не перакладаюцца даслоўна (слова за словам), а падбіраецца іх сэнсавы эквівалент, ён звычайна розніцца нават у блізкіх мовах. Як і ў нашым выпадку: *убить время – змарнаваць час*. Апроч таго, тут бачым і іншыя: *убіць бобра – ашукацца*.

У некаторых славутых знаўцаў мовы на месцы *змарнаваць час* выкарыстоўваецца *прабавіць час*: "Святлана зайшла да бацькі ў штаб, каб прабавіць час сярод сяброў ці хоць паласаваць цукеркай Бандарэнкавага каня Лютага (Янка Скрыган. Ранішнія росы. Мн., 1965. С.67-88).

*(Працяг у наст. нум.)*

**Валянцін Грыцкевіч,** дацэнт, сябар Міжнароднага ПЭН-клуба,сябар Саюза пісьменнікаў Беларусі, старшыня рады Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Пецярбургу, першы намеснік старшыні Міжрэгіянальнай асацыяцыі беларусаў Расеі

# Лінгвацыд або знішчэнне мовы

*(Заканчэнне. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

А вось беларусы маўчаць. Цярпелі і не такое. Перацерпяць і зараз.

У этыцы існуе прынцып спачування. Пачынаецца ён з таго, каб здолець паставіць сябе на месца іншага і зірнуць на свет ягонымі вачыма. Калі я распавёў старшакласнікам двух пецярбургскіх школ аб моўнай сітуацыі ў школе і па-за школаю Беларусі і запытаўся ў моладзі: "Як бы вы аднесліся да таго, каб у будучай аб'яднанай Беларуса-Расеі вас перавялі на беларускую мову навучання, давалі чытаць пераважна беларускамоўныя кніжкі, часопісы і газеты, паказвалі б толькі беларускамоўныя тэлеперадачы?", я пачуў гул узбурэння.

У 30-я гады былі ліквідаванымі ўсе беларускія школы, што былі створаныя на пачатку савецкае ўлады ў Сібіры і на Далёкім Усходзе ў месцах кампактнага пражывання беларусаў. Ніхто з навакольных жыхароў гэтых беларусаў не бачыў у гэтым несправядлівасці.

Паколькі ад паступлення ў вышэйшую навучальную ўстанову залежыць далейшы лёс выпускнікоў сярэдняй школы, а выкладанне ў вышэйшай школе вядзецца выключна па-расейску, бацькі вымушаны ўжо дзесяцігоддзямі адмаўляцца ад таго, каб іхнія дзеці навучаліся ў школе на роднай мове.

Здаецца, планы апякуна Віленскай навучальнай акругі Навасільцава яшчэ ад 1831 года, улічаны савецкай і пастсавецкай уладаю Беларусі. Гэты чыноўнік калісці пісаў: "Надобно, начиная с университета, вводить преподавание на языке русском, ибо разность в языках всегда питает взаимную недоверчивость. Филологическое исследование языка и даже его простое изучение пробуждает исторические воспоминания о некогда бывшей самостоятельности и независимости государства".

Добра казаў граф Навасільцаў...

## IX. ДЭМАГРАФІЧНАЯ ПАЛІТЫКА

Дэмаграфічная палітыка адносна беларускага этнасу праводзілася па прынцыпу: "Мой адрас не дом і не вуліца, мой адрас Савецкі Саюз".

Тыя, хто дамагаліся на рэферэндуме 1995 г. ураўнования ў правах дзяржаўнай мовы рускай і беларускай моваў, спасылаліся на тое, што ў Беларусі жыве шмат расейцаў.

Гэта так. Расейцы пачалі перасяляцца масава ў Беларусь здавён. З канца ХУІІ ст. яны уцякалі туды, шукаючы прытулку ад рэлігійнага і, галоўнае, ад дзяржаўнага ўціску царскіх уладаў.

Па афіцыйных расейскіх крыніцах ХУІІІ ст., тады перасялілася з Расеі ў Беларусь не менш за сто тысячаў і не больш за мільён чалавек.

Але вось што дзіўна. Па іншых крыніцах не ўдалося знайсці слядоў захавання расейскае адметнасці гэтых уцекачоў (апроч нешматлікіх пасяленняў стараабрадцаў, значэнне якіх у перасяленнях значна перабольшана). У чым справа?

Хутчэй за ўсё таму, што гэтыя людзі хутка асіміляваліся ў беларускім асяроддзі. Іх не падтрымлівала адукацыяй ці царквою Расейская дзяржава.

Масавыя перасяленні рускіх у Беларусь спыніліся пасля прыяднання яе да Расеі. Узнавіліся масавыя перасяленні толькі пры савецкай уладзе.

А пры царызме ў Беларусь ехала чыноўнаенства, святары, настаўнікі, якіх прыахвочвала да гэтага царская ўлада. І здаецца, мае рацыю С. Дубавец, калі піша:

"Видя и зная теперь характер этого нашествия, можно ли допустить, что это было "освобождение" или "воссоединение с Россией", — как толковала нам прежняя пропаганда? Можно ли говорить о каких то благотворных плодах этого нашествия, как, впрочем, и всех последующих административных нашествий с "большой земли"?

В сущности, ответом на эти вопросы и будет то, почему мы не стали русскими. Потому что вместо русской природы языка, культуры нам предлагались природа, язык и культура чиновничества. Мы, народ, превращались не в русских, а в денационализированных чиновников – вбирая в себя эту психологию, этот тип достоинства и ценностей. Они входили в нас не вместо нашей белорусской сути, а лишь потеснив ее, приглушив своим объемом, своей массой. Мы так и не почувствовали ничего русского в себе."

У свю чаргу расейскія ўлады перасялялі беларусаў па-за межы Беларусі. Пэўная частка дробнай шляхты была перасеrange царызмам у Херсонскую губерню і на Паўночны Каўказ пасля паўстання 1831 г. Другую "партыю" шляхты і аднадворцаў перасялілі пасля тлумлення паўстання 1863 г. Царызм заахвочваў перасяленні беларускіх сялян у Сібір і на Далёкі Усход на пачатку ХХ ст.

Савецкая ўлада працягвала гэтую палітыку. У ходзе рэпрэсій пад час калектывізацыі з Беларусі было выселена шмат людзей. Тое ж паўтарылася ў 1940-я гг. пасля прыяднання да СССР Заходняе Беларусі.

Беларусаў высялялі з родных мясцінаў пад выглядам вярбоўкі на шахты, новабудовы, лесапавал у тайзе, асваенне цалінных зямель і г.д.

Усё гэта прывяло да змяненняў суадносінаў у Беларусі беларусаў і расейцаў. За годы савецкае ўлады колькасць апошніх павялічылася да мільёна 300 тысячаў.

Усё гэта абгрунтоўвалася патрабаваннямі да забяспячэння расейцаў у Беларусі адпаведнымі ўмовамі для расейскамоўнае адукацыі, друку, сродкаў масавай інфармацыі на іхняй роднай мове.

## X. УРАЎНАВАННЕ МОВАЎ

Беларусь ужо мела досвед "ураўнавания моваў" у афіцыйным ужытку. 29 жніўня 1696 г. усеагульная канферэнцыя саслоўяў (сейм) Рэчы Паспалітай абвясціла, што ў справаводстве Вялікага княства Літоўскага "цяпер усе рашэнні павінны складацца на польскай мове. Усе папярэднія акты, запісы, рашэнні і паказанні захоўваюць сваю моц"

У гэтай і іншых дзяржаўных пастановах пра забарону беларускай мовы гаворка не ішла. Больш за тое, беларуская мова на працягу ўсяго ХУІІІ ст. ужывалася ў справаводстве, рукапісах, асобных друкаваных выданнях. На ёй ствараліся беларускія інтэрмедыі, парадыйная паэзія і проза, казані, песні і вершы, тлумачальныя слоўнікі і дапаможнікі.

Аб гэтым сведчаць наступныя прыклады. У пастанове Пінскае кангрэгацыі 1791 г. казалася, што настаўнікамі могуць быць толькі тыя асобы, што валодаюць польскай і беларускай мовамі. Слуцкая праваслаўная кансісторыя (1791) загадала перакласці ўніверсал сейма Рэчы Паспалітай на беларускую мову.

Калі за сем год да таго кароль і вялікі князь Станіслаў Аўгуст наведаў Палессе, дык ягоную дарогу з Пінска да Крыстынопаля аздобілі надпісамі на польскай, лацінскай, беларускай і старажытнагабрэйскай мовах.

Але з апошняй трэці ХУІІІ ст. польская мова ўсталявалася ў школах Беларусі. Паланізацыя школ атрымала найбольшыя поспехі пры актыўнай падтрымцы царызму пасля прыяднання Беларусі да Расеі. Толькі пасля тлумлення царызмам паўстання 1831 г. ягоная палітыка ў дачыненні да паланізаванае беларускае шляхты рэзка змянілася. Паланізацыя скончылася. Пачалася русіфікацыя.

Вось чым абярнулася колішняе "ўраўнаванне моваў" 1696г.

Што да сучасных поглядаў на ўраўнаважанне моваў, дык варта прывесці довады на ягоную карысць. Напрыклад, беларускі экзарх Філарэт у адным са сваіх інтэрвію так тлумачыў гэта:"Выдаленне з практыкі расейскай мовы я разумею, як нешта такое, як брак павагі да расейцаў, якія тут жывуць. Уклад расейскай супольнасці (грамады) у Беларусі – як бы гэта сказаць – у арганізацыю Беларускай рэспублікі, пабудову яе эканамічнай, навуковай, культурнай базы вялізны. Так хутка гэта ўсё не перакрэсліць."

Калі інтэрвіюер запытаўся ва Ўладыкі: "Які варыянт быў бы найлепшым? Утрыманне дзвюх дзяржаўных моваў?", ён атрымаў адказ: "Было б справядліва, калі б абедзьве мовы прызналі дзяржаўнымі".

Як вядома, гэта было здзейснена праз два гады пасля публікацыі гэтага інтэрвію.

Як тут не прыгадаць казку пра лісу, якая пасялілася з хатцы зайца, зрабіла пэўныя прыбудовы да хаткі, не заўсёды прыдатныя для зайца. Толькі ў казцы няма таго, што ліса дамагалася, каб лісіная мова была ўроўненай з заячаю.

Добра было б, калі пры належнай дзяржаўнай увазе да расейскай мовы ў Беларусі не меншая ўвага ўдзялялася б беларускай, для 1 млн. 200 тысяч беларусаў, якія жывуць у Расеі (гэта амаль столькі ж, сколькі расейцаў жыве ў Беларусі).

Што да беларусаў у Расейскай Федэрацыі, то я прыгадаю, як спрабавалі беларусы Пецярбурга адкрыць праваслаўную царкву пры беларускім прыходзе, але царкоўныя улады перарабілі прыход на расейскі. У Расейскай Федэрацыі няма аніводнай дзяржаўнай беларускай школы, аніводнай дзяржаўнай беларускай бібліятэкі, аніводнай беларускай дзяржаўнай праграмы з беларускаю моваю на радыё і тэлебачанні, аніводнага беларускага тэатру, аніводнай кафедры або курсу беларусаведы ў шматлікіх расейскіх вышэйшых навучальных установах. Аніводная вышэйшая вучэльня Расеі не выкладае беларускае мовы, культуры, гісторыі, не гледзячы на намаганні беларусазнаўцаў Пецярбурга і Масквы адкрыць нешта падобнае, калі не кафедру, дык хоць спецыялізацыю. У гэты жа час у ВНУ Масквы і Пецярбурга з поспехам вывучаюцца мовы і культуры шмат якіх афрыканскіх і азіяцкіх этнасаў.

Для параўнання: у дэмакратычнай Польшчы, дзе жыве ўчацвёра менш беларусаў за Расею, пасля падзення камунізму працуе шэсць кафедраў беларускай культуры ў ВНУ пяцёх гарадоў. Туды ездзяць пецярбургскія беларусазнаўцы для чытання лекцый, але не чытаюць іх у сваіх гарадах. У Варшаве і Беластоку працуе беларускае радыёвяшчанне. Выходзяць беларускія газета і часопіс. Існуюць беларускія царкоўныя прыходы, працуюць беларускія школы. У Таліне ёсць беларускае радыёвяшчанне, у Латвіі і Летуве працуюць беларускія школы, у Вільні ў адным з ВНУ рыхтуюць беларускіх настаўнікаў.

У Расеі – хіба як на замену сапраўднаму клопату аб развіцці беларускай мовы і культуры – увесь час заклікаюць да дзяржаўнага аб'яднання з Беларуссю. Што можа чакаць беларускую мову і культуру ў аб'яднанай Беларуса-Расеі пры сённяшніх адносінах да беларускай мовы і культуры і ў Беларусі, і ў Расеі, прадбачыць зусім нецяжка.

## XI. "СВАБОДА ВЫБАРУ МОВЫ"

Сапраўдная свабода выбару мовы магчымая толькі на правах роўнапраўнасці моваў. Гэтага не бывае ў аніводнай шматнацыянальнай дзяржаве. Там немінуча існуе прыцісканне і нават знішчэнне іншых нацыянальных культур, моваў, перадавых мыслячых асобаў, якія не належаць да пануючай нацыі.

Словы пра правы чалавека ў выбары мовы існавалі ў законах СССР і другой Рэчы Паспалітай (Польшчы ў 1918-1939гг.). Рэальная рэчаіснасць заўсёды зводзілася там да выбару для ўжывання зусім не беларускай мовы. Гэта прыводзіла да дэнацыяналізацыі і асіміляцыі беларусаў суседнімі народамі.

Адным з ключавых словаў у савецкай літаратуры па пытаннях гісторыі і мовы было слова "добраахвотны". "Добраахвотна" нерасейцы прыядноўваліся да Расеі. "Добраахвотна" на ролю спосабу міжнацыянальных зносінаў была абрана расейская мова. Звычайная логіка тых, хто занявольвае іншых: маўляў, ахвяра сама прасілася пад ярмо.

Сёння, калі можна пачуць размовы пра правы асобы, часам з ёю звязваюць свабоду выбару мовы. На ўвазе маецца адно: як бы, жывучы ў Беларусі, не вучыць і не карыстацца беларускаю моваю.

Але супрацьстаўленне правоў нацыі правам асобы ўзнікае часцей за ўсё ў каланізатара. Гэта ён лічыць асобаю перадусім каланізатара і патрабуе ўсіх тых правоў, якія маюць жыхары калоніі, не адмаўляючыся, зразумела, ад правоў каланізатара.

Чаму да галавы не прыходзіць такая думка ў тых краінах, дзе з правамі чалавека ўсё нармальна? Чаму грамадзяне былога СССР не абураюцца, калі ў ФРГ ці ЗША, каб уладкавацца на працу, трэба здаць экзамен па нямецкай і ангельскай мовах?

Прыязджайце, калі ласка, да якой-небудзь еўрапейскай або амерыканскай краіны і патрабуйце, каб з вамі размаўлялі "нормальным языком", гэта значыць, вашай моваю. І каб у школе і універсітэце выкладанне ішло таксама вашым "нормальным языком". "Свабода" выбару мовы ў сучаснай Беларусі азначае свабоду нявыбару беларускай мовы. Дэмакратычны лозунг прыйшоў на месца колішніх непрыхаваных і прыхаваных прапановаў асімілятараў.

## XII. ІНШЫЯ ФОРМЫ ЛІНГВАЦЫДУ

Лінгвацыд ажыццяўляецца шматлікімі спосабамі. Мовазнаўства на службе асіміляцыі ўсе іх пералічыць цяжка. Сярод іншых апроч пералічаных спосабаў лінгвацыду можна назваць пераўтварэнне мовазнаўства на паслухмяны інструмент русіфікацыі беларусаведы.

Мовазнаўцаў-беларусістаў фізічна знішчалі. Адбывалася гэта яшчэ за сталінскімі часамі. Былі расстралянымі:

- аўтар "Беларускай граматыкі для школ" Браніслаў Тарашкевіч, прапанаваны ім правапіс быў заменены прыгаданай вышэй "наркомаўкаю",
- Язэп Лёсік, аўтар "Практычнай граматыкі беларускай мовы",
- Максім Гарэцкі, складальнік беларуска-расейскага і расейска-беларускага слоўнікаў,
- Сцяпан Некрашэвіч, аўтар такіх жа слоўнікаў.

Арыштоўваўся сааўтар М.Гарэцкага і С. Некрашэвіча па гэтых слоўніках расеец з паходжання Мікола Байкоў.

Быў рэпрэсаваным Іваан Бялькевіч, аўтар "Краёвага слоўніка усходняй Магілёўшчыны, — Шмат іншых беларусазнаўцаў было рэпрэсавана і загінула ад рук чырвоных катаў.

Іхняе месца заступілі мовазнаўцы, якія прапагандавалі "узбагачэнне" беларускай мовы за кошт расейскае і абгрунтоўвалі гэта тым, што апошняя "па сваім багацці, па грандыёзным значэнні тых каштоўнасцяў, што створаныя на гэтай мове, займае адно з першых месц сярод вядучых моваў свету", (Н. Крукоўскі, 1958).

Адным з галоўных кірункаў здзяйснення лінгвацыду была і застаецца барацьба з друкаваным словам.

У 1839 г. епіскап Язэп Сямашка па ініцыятыве шэфа жандармаў Бенкендорфа касуе Берасцейскую рэлігійную унію. Па сведчанні Р.Зямкевіча (1919) "Сямашка паліў на двары свайго палацу (у Жыровічах – В.Г.) уніяцкія беларускія абразы, гравюры і кніжкі, якія цяпер бібліёграфы не могуць знайсці (лік знішчаных старабеларускіх кніжак, цяпер нікому невядомых, апрача загалоўка, перавышае пяць тысяч экзэмляраў)". А. Мальдзіс, з кнігі якога пазычана гэтая цытата, лічыць лічбу пяць тысяч надвышанаю, але заўважае, што "няма дыму без агню".

А ў ХХ стагоддзі няўхільна памяншаліся наклады беларускамоўных ад 68,5% выданняў у БССР (1925) да 7% у 1987г.

Тое, што друкавалася беларускаю моваю, ўяўляла сабою галоўным чынам пераклады класікаў марксізму-ленінізму, верных ленінцаў агітацыйна-прапагандысцкую і сацрэалістычную мастацкую літаратуру.

Гэтая друкаваная прадукцыя кідала цень на мову, якой яна друкавалася. Як адзначыў расейскі эмігранцкі філосаф Георгій Фядотаў: "Дзесяткамі моваў Саюза павінны былі друкавацца і чытацца толькі зборы твораў Маркса і Леніна. Гэта было дасягнута з одамі Сталіну ў дадатак. Для гэтага трэба было задушыць нацыянальныя літаратуры (асабліва украінскую і цюркскую), знішчыўшы значную частку іхняй інтэлігенцыі".

Ці палепшыліся справы пасля абвяшчэння Беларуссю незалежнасці? У першыя годы – так. Але, пачынаючы з 1994 г., усё пайшло па вядомай наезджанай каляіне. Толькі з 1995 на 1997 г.г. наклады беларускамоўных выданняў паменшыўся з 12,5% да 5,5% ( ад агульнага ліку), стаў меншым нават за 1987 года.

Гадавы наклад газет (выданняў) беларускай моваю за той жа час паменшыўся з 322 да 272 мільёнаў асобнікаў. 2

Каб не было чаго чытаць (а ў нашы часы яшчэ і слухаць і глядзець) беларускай моваю, механізм русіфікацыі працаваў і працуе на поўную моц. Гэтая праца цягнецца дзесяцігоддзямім і нават стагоддзямі, калі лічыць ад першага падзелу Рэчы Паспалітай і ўвядзення расейскіх школ па-перш на тэрыторыі Магілёўшчыны і Віцебшчыны.

Гісторыя лінгвіцыду ў дачыненні да беларускае мовы адназнакава сведчыць пра тое, што адзіным і найбольш трывалым чыннікам супраць яго ёсць дзяржаўнасць нацыянальнай мовы. Супрацьстаяць адкрытаму ці прыхаванаму лінгвацыду можна толькі, маючы пэўную сістэму ведаў і ўсведамленне таго, чым з'яўляецца мова, як і па якіх законах яна жыве, якая яе роля ў жыцці чалавека і нацыі. Аб гэтым і пойдзе гаворка ў наступных артыкулах, якія прысвечаныя такім тэмам як: "Што такое мова", "Навукі пра мову" і г.д.

## Дзень добры, ТБМ

Піша Вам прыхільнік панавання беларускай культуры і гісторыі. Я ведаю, што ТБМ ладзіла пікеты ў гонар захавання назову, галоўнаму праспекту Менска Ф.Скарыны. Але мне не атрымалася на гэты пікет патрапіць. Як бы гэта можна было б зрабіць, каб у газеце "Наша слова" надрукаваць нейкі бланк, на які можна было бы пазбіраць подпісаў у абарону назова праспекта. Я ведаю шмат людзей бы паставіла свае подпісы, каб захаваць назву праспекта Ф.Скарыны.

І другое невялікае пытанне. Чаму не можна друкаваць газету "Наша слова" на сапраўднай беларускай мове, а не на наркомаўцы.

***З павагаю Валодзя Бандарчык. Менск.***

**Сакратарыят ТБМ і рэдакцыя газеты просіць сваіх чытачоў не застацца ў баку ад гэтай праблемы і накіроўваць аркушы з подпісаміў сядзібу ТБМ па адрасу: г. Менск, вул Румянцава, 13, або ў рэдакцыю газеты "Наша слова".**

## Аркуш пратэсту

### для збору подпісаў супраць перайменавання праспекта імя Францішка Скарыны ў Менску

Мы грамадзяне Беларусі, рашуча пратэстуем супраць спробаў афіцыйных уладаў краіны перайменаваць галоўны праспект імя Францішка Скарыны.

Мы лічым, што гэтая ганебная акцыя скіравана супраць усяго беларускага народа, ягонай духоўнай і культурнай спадчыны.

Патрабуем неадкладна спыніць захады па вынішчэнні з народнай памяці імя славутага сына Беларусі і захаваць імя Ф.Скарыны ў назве галоўнага праспекта нашай сталіцы.

| № | Прозвішча, імя | Адрас пражывання | Дата падпісання | Подпіс |
|---|---|---|---|---|
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |

# Слова на дзень маткі

*Гэты артыкул, напісаны вядомай дзеячкай беларускага адраджэння, якая зараз жыве ў Канадзе, сп. Раісай Жук-Грышкевіч упершыню быў надрукаваны у газеце "Беларус" у далёкім 1967 годзе.*

*Але актуальнасць ён не згубіў нажаль і сёння, асабліва пасля сумнавядомага "рэферэндуму" 1995 г.*

*Зараз лёс беларускай мовы, як і раней, залежыць ад беларускіх жанчын. Калі яны, нягледзячы ні на што будуць са сваімі дзецьмі размаўляць па-беларуску, нам нішто не будзе пагражаць. У якасці прыкладу можа правесці курдскіх жанчын. Нягледзячы на забарону курдскай мовы ў Турцыі, Сірыі і Іраку кожны курд ёй валодае і не думае забываць. Дык будзем падобныя на гэтых мужных людзей.*

*Алег Трусаў, старшыня ТБМ.*

Ужо гэтак чалавек створаны, што па сваёй натуры хоча быць лепшым. Хоча прынамся ў вачох людзей выглядаць болей вартасным. Таму чыесьці пахвалы й камплімэнты мімаволі робяць нам прыемнасць, а нагана й крытыка – прыкрасьць.

Чалавек мае фізічныя й духовыя вартасьці, якія ён стараецца ўсьцяж разьвіваць і ўзмацняць. Фізічныя – гэта вонкавае прыгаство, грацыя, у мужчын – сіла. Не дарма мільёны даляраў жанчыны штогод трацяць на касмэтыкі, а другія мільёны – на прычоскі. Усё на тое, каб узмоцніць, увыпукліць сваё вонкавае прыгаство, якое, аднак, паміма ўсіх стараньняў, зь векам вяне, каб зусім загаснуць.

Духовыя вартасьці, як інтэлект – розум, веда, мудрасьць, — характар – прынцыповасьць, справядлівасьць, дабрата, — ды ідэйнасьць, калі пра іх дбаеш і іх разьвіваеш, зь векам збольшваюцца й набіраюць моцы. Яны, калі асабліва высокія, моnуць пераэкыць самога чалавека, каб вякамі трываць у памяці новых пакаленьняў.

Духовыя вартасьці падкрэсьліваюць і ўзмацняюць фізічныя. Прыгожая дзяўчына з духовай культурай выглядае лепей, як прыгожая бяз культуры. Дабрата лагодзіць рысы й сонцам сьвеціць у вачох, а злосьць і ненавісьць ня толькі атручвае душу, але й вонкавае прыгаство. Мастачка – сьпявачка ці балетніца – у часе выконваньня свайго майстэрства набірае асаблівага чару, што мы часта ня ведаем, што нас захапляе: яна ці ейнае мастацтва.

Духовыя вартасьці, хоць міжсобку цесна зьвязаныя мы падзелім на дзьве групы: інтэлект і ідэйнасьць. Інтэлект – веда, розум – адрозьнівае нас ад жывёлы. Ідэйнасьць ставіць адзнаку яшчэ на вышэйшы ўзровень чалавецтва. Высока ідэйныя людзі ўзьнімаюцца гэтак высока над намі, што мы іх ня можам не дарыць пашанай, любоўю й абагаўленьнем. Але яны, з другога боку, сьцягваюць на сябе людзкую зайздрасьць, ненавісьць і варожасьць (каб мець ворагаў, трэба мець пазытыўныя вартасьці). Гэткімі высока ідэйнымі людзьмі былі: як чалавек , Ісус Хрыстос – яго абагаўлялі й яго расьпялі, гэткім быў Сакрат, Франьцішак з Асізу, гэткай была Еўфрасіньня Полацкая, Цётка, гэткім быў Янка Купала. На чым палягае іхняя веліч? На тым, што яны жылі для ідэі, у якую верылі, і для яе паміралі. Яны былі асілкамі духа. Гэткай сілай й прыгажосьці кажны мець ня можа, але ў натуры чалавечай ёсьць імкненьне мо' вынікаючае з жаданьня несьмяротнасьці, ісьці сьлядамі асілкаў. Таму й жывуць у нашай памяці. Спытаем, калі мы ўжо так імкнемся быць высокавартаснымі, дык чаму-ж мы ўсе імі ня ёсьць? Таму што цяжка й балюча падымацца на вышэйшы шчэбель чалавецтва. Таму, што найлягчэй і найвыгадней – поўзаць пры зямлі. Падымаючыся ўвысь, можна паламаць і пабіць сабе крылы й каленькі, а пры зямлі гэтая небясьпека не пагражае. Але затое, хто зь лянівае выгады ніколі не падымаецца ўвысь, той ніколі не зазнае прыгаства воблакаў і неба. Таму дзеля гэтага "неба" людзі, хоць з болем, але вучацца, хоць з болем, але хочуць быць вартаснымі, хочуць хоць у вачох іншых выдавацца ідэйнымі.

Каб узбагаціць сябе ведаю, трэба вучыцца. Гэта ўжо ня так і скамплікавана: узяць кніжку, сесьці й вучыцца, але навучыцца нечага новага, мазгі баляць. Мы баронімся ад гэтага болю й апраўдваемся, што я ўжо за стары, каб новага вучыцца. Добра, але памятай, што так жаданае пашаны іншых (а хто яе не жадае!) не здабудзеш. А каб падняцца на яшчэ вышэйшы ўзровень чалавецтва, трэба патрапіць даваць зь сябе й сябе. Трэба ахвяраваць сваю выгаду, свой час, сваю прыемнасьць, сваю працу, свой запрацаваны грош. Ахвяраваць сябе куды трудней і балючэй, як нельга навучыцца. Таму людзей асабліва высока ідэйных меней, як людзей зь ведай і розумам.

Найбольшай сілай і рухавіком, што ўзьнімае нас уверх, што дае нам сілы рабіць чуць ня немагчымае, ёсьць любоў. Любоў да маткі да дзіцяці, а дзіця да маткі ёсьць у нас уроджанай, арганічнай, гэтаксама, як уроджанай і арганічнай ёсьць любоў да свайго краю, свайго народу, свае мовы, усяго, як кажуць, свайго роднага. Гэтую любоў мы завем патрыятызмам. Слова паходзіць з лацінскай : патрыя – Бацькаўшчына, а патрыятызм – любоў да Бацькаўшчыны. Хтосьці сказаў трапна, што хто не патрапіць падняцца да вышыні патрыятызму, той нікуды не патрапіць падняцца. Вечна будзе толькі поўзаць. Патрыятызм ёсьць сыноўскай любоўю, і тыя, што ня любяць свае Бацькаўшчыны й усяго свайго роднага, вырадныя сыны й дочкі свае Маткі, свае нацыі, гэта біблійныя "блудныя сыны". У добрай сям'і бацькі, а асабліва маткі, вучаць сваіх дзяцей, як і Бог у 10-цёх Запаветах наказвае, любіць і шанаваць сваю матку й бацьку. Яны вкучаць сваіх дзяцей любіць і шанаваць сваіх братоў і сясьцёр, сваю Матку Беларусь і свой народ. Вучаць сваіх дзяцей і словамі і прыкладам.

Каб нешта ці некага палюбіць, трэба сьпярша яго пазнаць. Каб твае, матка, дзеці палюбілі сваю Беларусь, яны мусяць пазнаць сваю мову, культуру й гісторыю свайго народу. Ніхто іншы, як ты, матка, маеш узгадваць у сваіх дзяцёх любоў да Беларусшчыны. Але гэтую любоў ты мусіш мець сама. Тады яна перадасца тваім дзяцём разам з тваім малаком і калыханкамі. Перадасца яна – любоў да Бацькаўшчыны – твайму дзіцяці прыкладам твае ахвярнасьці й адданасьці беларускай справе. Дзеці назіраюць за сваімі бацькамі й ідуць іхнімі сьлядамі. Калі ты бярэш дзейны ўдзел у грамадзкім жыцьці, ты іх змалку прывучаеш да грамадзкае працы. Тое, што навучыліся ад свае маткі й бацькі таго мы ніколі не забудзем. Калі яны навучылі нас любіць і даражыць усім, што беларускае, ніхто й нішто гэтае любоўі ад нас не забярэ. А любоў, як мы ўжо гаварылі, і ёсьць той сілай, што дае нам крыльлі й узьнімае нас увысь.

Дык варта сяньня й спытаць сябе, а які-ж прыклад мы даём нашым дзецям? Ці гэта ёсьць прыклад стойкасьці Беларусшчыне, ці гэта ёсьць прыклад руплівасьці, ахвярнасьці й гатовасьці служэньня беларускай справе наперакор цяжкасьцям і прыкрасьцям? Ці гэта мо' ёсьць прыклад хаваньня сябе за чыесьці плечы: няхай іншыя запісваюцца ў беларускія арганізацыі, а я так збочку буду прыглядацца. У мяне яшчэ не хапае нацыянальнай гордасьці, не хапае на'т пашаны да свайго. Душой я яшчэ ня вольны, душой я яшчэ раб. Барані нас Божа ўзгадоўваць рабства ў нашых дзяцёх!

Можа хто з нас думае сабе: нашто мне гэта ўсё здалося? Я й мае дзеці абыйдуцца й без патрыятызму й без Беларушчыны. Што я бяз гэтага жыць ня буду?

Пэўне-ж, што бяз патрыятызму жыць будзеш і не памрэш, прынамся ня ўся, але частка цябе памрэ напэўна! Памрэ тая частка, што прыпадабняе цябе да людзей прыгажэйшых і вышэйшых духам, та частка, што набліжае цябе да Еўфрасіньні Полоацкай. Памрэ тая частка, пра якую паэта Алесь Звонак аб беларускіх жанчынах кажа:

**Гордасьць пэўна, ўзялі вы ў Рагвалодавай Рагнеды,**
**Дум ясноту, Еўфрасіньня, пэўна, ў спадчыну дала.**
**Кроў свавольных крывічанак бунтавала вас у бедах –**
**Пакідалі вы сьвятліцы, бралі ў рукі вы булат.**

***Раіса Жук-Грышкевіч.***

# Яны не хочуць быць манкрутамі...

Конкурс "Не пакідайце ж мовы нашай беларускай", які праводзіла Таварыства беларускай школы, паказаў, што дзеці не баяцца вучыцца на беларускай мове. Пра гэта сведчаць цытаты з конкурсных работ. "Чатыры гады я вучыўся на беларускай мове. Потым у СШ № 153 г. Менска родную мову вырашылі вынішчыць. Усе класы разам, у адзін час, перавялі на мову суседняй дзяржавы. Я звяртаўся да дырэктара школы, да настаўнікаў, якія сталі на бок знішчэння маёй любімай мовы., каб яны адумаліся, пакаяліся, не рабілі вучняў манкрутамі. Але ўсё дарэмна. Мне давялося перайсці ў СШ № 2, — піша Палюховіч Ігар у сваім сачыненні "Вывучайце роднае слова".

Вучань сярэдняй школы № 33 г.Віцебска Каржыцкі Максім, які стаў лаўрэатам конкурсу, так і назваў сваю работу – "Я – не манкрут".

А вось што напісаў Аляксандр Новікаў з Гарадка Віцебскай вобласці: "Здаецца, зусім нядаўна слова беларускае трывала ўваходзіла ў паўсядзённае жыццё беларусаў. На жаль, не ўсіх. Шмат людзей не прызнае беларускую мову, не лічыць сваёй роднай". Хлопчык шмат займаецца беларускай мовай самастойна: "... беларускую мову я зараз ведаю, калі не лепш, то і не горш за маіх аднагодкаў, якія ў пачатковай школе вучыліся ў беларускамоўных класах".

Бабіч Юлю, шасцікласніцу СШ № 4 г.Жодзіна, хвалюе, што хутка на Беларусі ўсе школы будуць на рускай мове. "Я гэтага не хачу, бо прывыкла вучыцца па-беларуску. І таму я звяртаюся да настаўнікаў, да дырэктараў школ, да самога міністра! У нашай школе ніводнага беларускага класа не перавялі на рускую мову. У нас шануюць і паважаюць родную мову ўсе, пачынаючы з вучняў і канчаючы дырэктарам школы. А ў вас?"

А ў нас, у сталічнай школе № 180, зусім іншыя адносіны да ўсяго беларускага. Мая вучаніца, дзевяцікласніца Насця Саланевіч, у сваім сачыненні "Беларуская мова ў маім жыцці" успамінае: "Я пачынала вучыцца ў беларускамоўным класе і вельмі хацела застацца ў ім па-сёння. Але лёс распарадзіўся інакш. Шкада, што ў нашай школе няма англійскага класа на беларускай мове, я б там вучылася".

А было гэта так. У той час, калі Насця пачынала вучыцца, у СШ № 180 г. Менска былі адкрыты тры першыя класы з беларускай мовай навучання. Праз чатыры гады з гэтых трох беларускамоўных класаў зрабілі – два, бо трэба, каб у кожным класе было не меней 25 вучняў. Пасля заканчэння сёмага класа пачалі ствараць профільныя і спецкласы: матэматычны, хіміка-біялагічны, англійскі, фізкультурны. Вядома ж, усе – рускамоўныя. У гэтыя класы перайшло аж 30 вучняў. У выніку з тых трох беларускіх класаў сёння застаўся толькі адзін – 9 "Д". Дырэктар школы Меяроўскі В.С. не супраць, каб школьнікі працягвалі навучанне ў дзесятым класе на роднай мове, але яго хвалюе недастатковая напаўняльнасць класа: усяго 21 чалавек пры норме – 25. Нядаўна ў нас была праверка КРУ, у выніку якой адміністрацыі школы трэба вярнуць дзяржаве 4 мільёны рублёў, таму што ў 6 "Д" класе з беларускай мовай навучання ўсяго 14 вучняў. Значыць, лічыць КРУ, аплату за сваю працу класны кіраўнік павінна атрымліваць палавінную, нягледзячы на тое, што праводзіць не палову класнай гадзіны, а цэлую, не палову экскурсіі, а цэлую.

Завуч Еўтухоўская С.А. называе іншую прычыну, чаму не будзе сфармаваны дзесяты беларускамоўны клас: "Няма кадраў".

Андрэй Дэц, які дзевяць гадоў вучыўся ў класах з беларускай мовай навучання, у сваім сачыненні "Праблема, вартая ўвагі" піша: "Улады не рыхтуюць настаўнікаў выкладаць свой прадмет на беларускай мове, часам выкладчыкі адмаўляюцца весці ўрокі на роднай мове. А яшчэ бывае і такое: у школе ёсць настаўнікі, якія валодаюць беларускай мовай, але іх наўмысна накіроўваюць працаваць у класы з рускай мовай навучання".

Ствараецца ўражанне, што адміністрацыя СШ № 180 імкнецца любымі сродкамі пазбавіцца беларускамоўных класаў. Таму некаторыя бацькі напісалі заявы на перавод сваіх дзяцей у класы з рускай мовай навучання. Яны баяцца, што ў беларускамоўных класах будуць выкладаць кепскія настаўнікі, а па заканчэнні школы выпускнікі не змогуць атрымаць вышэйшую адукацыю на роднай мове.

Пералічаныя факты сведчаць пра абыякавасць кіруючых органаў да праблем беларускамоўных школ і класаў. Таму гэтыя праблемы як былі, так і застаюцца надзёнымі.

***Алена Дэц,***
***настаўніца СШ № 180 г. Менска.***

# ...і яны не хочуць

Ніколі не пісала вам раней, так ужо неяк сталася, але цяпер адважылася, больш не стае сілы маўчаць, каб вы ведалі, што і ў Калінкавічах таксама ёсць прыхільнікі – абаронцы Бацькаўшчыны, мовы.

Прыдаў моцы артыкул Міхаліны Ваўчок "Надзея на сям'ю" ("Наша слова" за 24.02.99г.). Імгненна прачытаўшы яго, потым перачытвала яшчэ раз, абдумваючы кожны радок. Назаўтра дала магчымасць пазнаёміцца з ім сваім дзесяці і адзінацацікласнікам. Узяцця за ліст прымусілі і іх водгукі.

Вось некаторыя з іх: ***"Я ніколі раней ( і гэта вельмі дрэнна) не задумваўся над тым, хто я такі. А праслухаўшы артыкул М.Ваўчок – задумаўся... Перш за ўсё насцярожыла тое, чаму мы, сапраўды, не размаўляем на роднай мове. Ці ж яна горшая за англійскую, нямецкую, украінскую, малдаўскую? Дык не ж, па мілагучнасці гучанія мы другія ў свеце (так казала нам Тамара Аляксандраўна). Дык што ж з намі робіцца?"***

***Андрэй.***

"Я вельмі хачу, каб у XXI стагоддзі ўсе беларусы нарэшце загаварылі толькі на сваёй роднай мове. А гэта ўсё ў нашых уласных руках".

Віталь.

***" Я падтрымліваю аўтара ў тым, што будучае залежыць ад сям'і. Каб беларусы не вымерлі, як нацыя., патрэбна тэрмінова (яшчэ не позна!) пачаць працу ў сям'і..."***

***Сяргей.***

"Я б так хацела, каб усе мае аднакласнікі размаўлялі на роднай мове, каб з іх не смяяліся ні ў аўтобусе, ні на вуліцы, ні ў кінатэатры. На жаль, толькі кпіны... Ды і дома маці з бацькам размаўляюць на трасянцы, а ў перапісным лісце напісалі, што яны дома размаўляюць на рускай мове....

Таму я хачу, каб артыкул Міхаліны Ваўчок з Баранавіч прачыталі ўсе, у першую чаргу мае бацькі..."

Святлана.

***"Як добра, што ёсць на свеце "Наша слова", што ёсць наша настаўніца, якая "падкідвае" нам такія артыкулы. Можа, і паразумнеем? Уся надзея – на сям'ю і школу..."***

***Ірына.***

"Я думаю, што ўсё ж надыдзе час, калі наш народ прачнецца. Каб мае аднагодкі з іншых школ прачыталі артыкул М.Ваўчок, яны б зразумелі... Я летась была ў Італіі... Як прыгожа там усе размаўляюць на сваёй мове... Мне было сорамна, што я не ўмею, на жаль...".

Наталля.

***"Я ўжо ўяўляю, як мы разам (мая будучая дачка, муж і я) едзем у Жыровіцкі манастыр, а затым – на радзіму Сапраўднага Беларуса Уладзіміра Караткевіча, а мая маленькая Рагнедка (я назаву яе толькі так!) пытаецца і пытаецца: то пра бабулю, то пра дзядулю, то пра сваё імя..."***

***Таццяна.***

"Ну, чаму не вучылі нас гэтаму раней? Чаму смяюцца мае аднагодкі з роднай мовы? Чаму мы такія? Добра, што настаўніца прачытала нам гэты артыкул. Няхай цяпер кожны падумае...".

Аляксандр.

Для мяне галоўным было тое, як адрэагуюць мае старшакласнікі на парады карэспандэнткі. Я вельмі спадзявалася, што яны (мае дарослыя дзеці, якім праз некалькі месяцаў выходзіць у самастойнае жыццё) падтрымліваюць кожны пункт, паселяць кожны радок у сваё сэрца, прапусцяць яго праз сваю юначую душу, адчуюць боль і спадзяванні, надзею і веру...

І дзякуй Богу, я не памылілася, у многіх сваіх вучняў не памылілася. Безумоўна, былі і такія радкі, што маўляў, не галоўнае гэта... Але ж большасць вучняў закрануў тэкст-парады. Я ўдзячна сваім выхаванцам, што большасць з іх адной са мною думкі, што і ў іх шчыміць сэрца...

А што многія задумаліся над радкамі газетнага артыкула гаворыць і той факт, што на маю прапанову ахвяраваць грошы на падтрымку ТБМ і газеты "Наша слова", амаль усе згадзіліся. Ужо сабрана больш 300 тысяч, але аперацыя "Не пакідайце ж мовы беларускай працягваецца ў нашай школе. Значыць, неабыякавыя яны да лёсу краіны, да лёсу роднай мовы. Значыць, ёсць надзея... на іх будучыя сем'і. Значыць, будуць яны спяваць беларускія песні, глядзець з дзецьмі "Калыханку", распавядаць ім пра Льва Сапегу, Кірылу Тураўскага, Еўфрасінню Полацкую. Значыць, паедуць яны ў святыя мясціны Беларусі – Полацк, Навагрудак, Нясвіж...

Верма ў гэта, дзецюкі!!

**З павагаю да вас, настаўніца беларускай мовы Акулевіч Тамара Аляксандраўна.**

# Адмысловы слоўнік фізічнай тэрміналогіі

Нядаўна ў выдавецтве Гарадзенскага ўніверсітэта імя Янкі Купалы выйшаў з друку "Руска-беларускі фізічны слоўнік" (Гродна: ГрДУ, 199.-498с.), падрыхтаваны на пачатку1994 года навукоўцамі універсітэта А.М. Каладзінскім, Д.М. Карацінскай і П.У.Сцяцко. Досыць выразнае ўяўленне пра слоўнік чытач можа атрымаць з прадмовы слоўніка. Звернемся да яе

Пасля абвяшчэння незалежнасці нашай краіны – Рэспублікі Беларусь разгарнуліся шырокія магчымасці для нацыянальна-культурнага адраджэння, для натуральнага развіцця беларускай мовы. Прыняцце Закона аб мовах, у якім беларускай мове нададзены статус дзяржаўнай у Рэспубліцы Беларусь, вымагае актыўнага функцыянавання роднай мовы ва ўсіх сферах грамадска-культурнага жыцця. Перадусім такою сфераю выступае адукацыя, бо менавіта тут, у сярэдняй школе і ВНУ, закладваецца той грунт, тая глеба, на якой вырастае нацыянальная свядомасць, нацыянальная культура. Перашкожаю на шляху беларускамоўнага навучання з'яўляецца недастатковая распрацаванасць і ўкараненне ў практыку навуковай нацыянальнай тэрміналогіі. Навуковая тэрміналогія, як вядома, у пэўнай ступені адлюстроўваецца ў акдэмічных слоўніках беларускай мовы. Беларускія слоўнікі, асабліва ў 60-80-я гады, запаланілі беспадстаўныя пазычанні і калькі з рускай мовы, сярод якіх – шматлікія штучныя структуры, неўласцівыя беларускай мове.

У 1977 годзе народны паэт Беларусі, акадэмік Максім Танк занатаваў: "Узяўся гартаць слоўнікі. Бясконцая і бяздумная запазычанасць чужых слоў, як у нас, не можа не пагражаць дэградацыяй самой мове". Пазней, у 1993 годзе, пад час адраджэння нашай культуры і мовы ў сувярэннай краіне Максім Танк запісаў: "Зараз наша мова, якая доўгі час была і ў загоне, і ў прыгоне, патрабуе грунтоўнай рэстаўрацыі і ачышчэння ад розных непатрэбных запазычанасцяў" (Полымя. 1997. № 12. – С.69). Пры складанні слоўніка аўтары імкнуліся адысці ад бяздумнага калькавання і пазычання з рускамоўнай фізічнай тэрміналогіі, разумеючы, што аднабокавая арыентацыя на чужую мову перашкаджае развіццю роднай мовы. Таму ў падачы беларускіх тэрмінаў арыентаваліся на прыярытэтнае выкарыстанне сродкаў роднай мовы, на строгае захаванне ўласцівых нашай нацыянальнай мове заканамернасцяў на ўсіх яе ўзроўнях – лексічна-семантычным, фаналагічным, марфемна-словаўтваральным і граматычным. Слоўнік мае каля 20000 тэрмінаў у кожнай з частак. Пры пердачы рускага тэрміну некалькімі беларускімі эквівалентамі на першае месца выносіцца традыцыйны тэрмін або той, якому аддаецца перавага: пры гэтым аўтары палічылі мэтазгодным адлюстраваць у матэрыялах слоўніка розныя сінанімічныя варыянты беларускіх тэрмінаў, тым самым даючы чытачу, карыстальніку слоўніка мажлівасць выбару таго з варыянтаў, які на яго думку, можна лічыць найбольш прыдатным, адпаведным законам нацыянальнай беларускай мовы. У слоўнікук знайшла сваё адлюстраванне пэўная частка астранамічных, матэматычных, тэхнічных і хімічных тэрмінаў, а таксама слоў і словазлучэнняў, якія не з'яўляюцца фізічнымі тэрмінамі ў строгім сэнсе слова, але рэгулярна выкарыстоўваюцца ў навучальных дапаможніках, падручніках, лекцыйных тэкстах для характарыстыкі фізічных рэаліяў і паняццяў.

Адпаведнасць беларускага эквівалента вызначэнню пэўнага фізічнага паняцця і рэаліі ўстанаўлялася на падставе дакладнага высвятлення іх сутнсці. Гэтую надзвычай адказную працу выканаў навуковец-фізік, кандыдат фізічна-матэматычных навук, дацэнт А.М. Каладзінскі. Лінгвістычную нарматыўнасць беларускіх эквівалента забяспечылі два астатнія аўтары: доктар філалагічных навук, прафесар, член Рэспубліканскай тэрміналагічнай камісіі пры Міністэрстве адукацыі Рэспублікі Беларусь, старшыня яе Гарадзенскае філіі П.У.Сцяцко і кандыдат філалагічных навук, дацэнт Д.М.Карацінская. Яна ж выконвала і самую вялікую працу на ўкладанні слоўніка. Пры падрыхтоўцы слоўніка выкарыстоўваліся навукова-тэхнічныя перыядычныя выданні, манаграфіі, навучальныя дапаможнікі і падручнікі па фізіцы для ВНУ і сярэдняй школы, энцыклапедыі (у тым ліку і 5-томавая "фізічная энцыклапедыя"), тэрміналагічныя даведнікі 20-30 гадоў, акадэмічныя слоўнікі і сучасныя спецыяльныя галіновыя даведнікі, а таксама шматлікія артыкулы па тэрміналогіі і культуры мовы.

На завяршальным этапе працы над "Руска-беларускім фізічным слоўнікам" аўтары мелі магчымасць пазнаёміцца з выдадзенымі ў 1993-1995 гадах і пазней тэрміналагічнымі даведнікамі па фізіцы, матэматыцы ды іншых галінах ведаў і пераканацца ў правільнасці абранай канцэпцыі на прыярытэтнае выкарыстанне сродкаў роднай мовы пры вызначэнні беларускіх адпаведнікаў да рускамоўных тэрмінаў. Слоўнік рэцэнзавалі вядомыя на Беларусі навукоўцы: доктар філалагічных навук, прафесар, член Рэспубліканскае тэрміналагічнае камісіі пры Міністэрстве адукацыі Рэспублікі Беларусь, загадчыца кафедры беларускай мовы і беларусазнаўства Акадэміі кіравання Рэспублікі Беларусь Л.А.Антанюк, доктар фізічна-матэматычных навук, прафесар С.А.Маскевіч і кандыдат фізічна-матэматычных навук, дацэнт Г.А.Гачко.

Аўтары з удзячнасцю прымуць карысныя заўвагі і прапановы, накіраваныя на ўдасканаленне беларускай навукова-практычнай тэрміналогіі. Бо толькі супольнымі намаганнямі можна выпрацаваць і ўдасканаліць нацыянальную беларускую тэрміналогію, адрадзіць і развіць нашую духоўнасць, нацыянальную культуру і мову. Гэтаму спрыяе і падрыхтоўка ў розных калектывах навукоўцаў спецыяльных даведнікаў па той самай галіне ведаў.

